# «Адна зямля» — заўсёды свята

Пачатак на 1–й стар.

## Зямля адна - а школы дзве

Сярод удзельнікаў было шмат знаёмцаў з I конкурсу, што праходзіў у Чысці: **Юлія Ліннік, Святлана Пушкарова, Анастасія Пятроўская, Марына Станкевіч і Мікалай Пратасевіч** з Валожыншчыны, з Ашмяншчыны прыехалі **Аксана Юркантовіч і Людміла Сінкевіч**. Калі параўноўваць з мінулым годам, то ўзровень выканаўцаў прыкметна вырас. З'явіліся новыя імёны, а мінулагоднія ўдзельнікі выглядалі больш прафесійна. Зрэшты, выразна было відаць дзве школы ўдзельнікаў – маладзечанскую і вілейскую.

Канкурсантам, лічу, пашанцавала, што арганізатары ўстанавілі на сцэне новы комплекс гукаўзмацняльнай апаратуры, які падарылі валожынскія ўлады работнікам культуры. Работа на добрай апаратуры вельмі ўпрыгожыла конкурс у цэлым.

У перапынку паміж выступленнямі малодшай і старэйшай узроставых груп валожынцы і госці горада атрымлівалі асалоду ад выступленняў мінулагодніх прызёраў "Адной зямлі" **Дзмітрыя Мінько** (гран–пры), **Хрысціны Хадзько** (першая прэмія ў малодшай узроставай групе), валожынскіх спевакоў **Аляксандра Шаўчэнкі** і **Уладзіміра Данчанкі**, выдатна спяваў вядучы конкурсу Сяргей Макей (словы і музыку да песні "Стары замак" ён напісаў сам). На мелодыю вядомай песні А. Газманава "Офицеры" Сяргей, дарэчы, напісаў і беларускі тэкст:

"Афіцэры Беларусі, хай ніхто вас не прымусіць

Здрадзіць роднаму народу і зямлі"...

## Нараджэнне новай зоркі

На час выступлення старэйшых удзельнікаў конкурсу надвор'е зусім сапсавалася, неба аблажылі нізкія хмары, дзьмуў халодны вецер, але **Даша Урызчанка** з Маладзечна прымусіла на ўсё гэта забыцца. Джазавая кампазіцыя "Аркестр" (словы **Людмілы Ляшчэвіч і Васіля Жуковіча**, музыка **Алены Атрашкевіч**) ускалыхнула гледачоў. Прыгожай афарбоўкі моцны голас, упэўненасць, натуральнасць рухаў, раскаванасць – быццам прызнаная зорка эстрады прыехала падтрымаць і ўпрыгожыць сваім выступленнем конкурс.

Адразу пасля свайго выступлення (пакуль выступалі іншыя канкурсанты) Даша крыху расказала пра сябе. Я падышла да яе, бо адчувалася, што дзяўчына – па–за канкурэнцыяй.

Летась яна скончыла Маладзечанскае музвучылішча па класе фартэпіяна. Працавала канцэртмайстрам у музычнай школе і музвучылішчы ў Маладзечне. Аднаго разу кампазітар Алена Атрашкевіч замяняла ў студэнткі–выпускніцы выкладчыка на ўроку сальфеджыо (захварэла педагог Надзея Шут), папрасіла яе застацца пагутарыць. З таго ўсё і пайшло.

Сёлета Даша прайшла ў Фінберга адборачны тур на конкурс эстраднай песні ў рамках фестывалю беларускай песні і паэзіі, хоча паступаць ва ўніверсітэт культуры на аддзяленне мастацтва эстрады.

Праз гадзіну пасля размовы пажаданні поспеху спраўдзіліся: Даша Урызчанка стала ўладальніцай гран–пры фестывалю і атрымала ў якасці прыза каляровы тэлевізар. Першае месца ў старэйшай узроставай групе заняла **Ірына Гаўрыс** (Маладзечанскі раён), у малодшай – **Наталля Салава** (Вілейскі раён).

## Бывай, Валожын, сустрэнемся ў Ашмянах

Відовішчным быў заключны гала–канцэрт, дзе выступілі лаўрэаты мінулагодняга і сёлетняга конкурсаў, выхаванцы эстраднага класа Маладзечна пад кіраўніцтвам Алены Атрашкевіч і **Пятра Туронка**. З **Насцяй Жук** спявала ўся глядацкая аўдыторыя, а калі выйшла **Кацюша Станкевіч** са сваёй "Модніцай" у суправаджэнні саксафона Насці Жук і кларнета Сашы Салаўёва, мясцовыя дзеці, якія ўвесь час танцавалі перад эстрадай, забыліся на свае танцы – яны глядзелі і слухалі, як зачараваныя. Маладзёжны шоу–балет "Влада" са Слуцка і рок–група "Атамі" з Мінска стварылі адпаведны святу настрой.

Як і летась, прагучаў гімн фестывалю з такой жа назвай, напісаны кампазітарам А. Атрашкевіч і паэткай Т. Трафімавай.

## Трыумф кампазітара

Дзякуючы кампазітару Алене Атрашкевіч, у многім адбылося станаўленне мінулагодняга ўладальніка гран–пры Дзмітрыя Мінько. Сёлета ў яе "чарговы" пераможца – Даша Урызчанка (яны абое займаюцца ў эстрадным класе пад кіраўніцтвам А. Атрашкевіч і П. Туронка). Зазначу, што падчас вынясення рашэння аб "гран–пры" яна спецыяльна, дзеля чысціні рашэння журы, не выказвала сваю думку. Алена ахарактарызавала пераможцаў:

*– На момант таго ўрока сальфеджыо, пра які вы згадвалі, патрэбная была падтанцоўка для Дзімы Мінько ў адборачным туры для фестывалю беларускай песні і паэзіі, што праходзіў у Маладзечне ў 1998 годзе. Дзякуючы Дашы, нумар выглядаў выйгрышна ("Хлопец з парасонам", словы Т. Трафімавай, музыка А. Атрашкевіч –* ***аўт.****). Потым яна ўдзельнічала ў запісах Дзіміных песень. А калі ў нейкі момант я прапанавала ёй самой спяваць, дзяўчына прызналася, што гэта яе мара з дзяцінства. Пётр Туронак узяўся ставіць ёй голас. Тады Даша адчула разуменне і падтрымку гледачоў, што вельмі важна. Голас пачаў гучаць, набіраць моц, пашырыўся дыяпазон. Да прафесійнай дасканаласці яна ішла сямімільнымі крокамі. Ёй уласцівыя прыродная грацыя, артыстызм, свой погляд на жыццё, уменне яго адстаяць, добры густ. Гэта моцная асоба, "дзяўчына з характарам".*

*Потым былі запісы на радыё, удзел у перадачы "Землякі". Увосень Даша Урызчанка будзе браць удзел у фестывалі беларускай песні і паэзіі.*

*Ірына Гаўрыс выглядала ў Валожыне ярка, мае добры комплекс дадзеных (ад голасу да знешнасці, умення трымацца на сцэне). Магла прэтэндаваць на гран–пры, каб мела дзве раўназначныя песні.*

*Наталля Салава – выхаванка вілейскай студыі "Экспромт" пад кіраўніцтвам* ***Алега і Нэлі Зайцавых****. Яна змагла прапанаваць уласную, арыгінальную манеру выканання вядомых песень. Добры кантакт з публікай, музычнасць, прыродны дар – голас – моцны і прыгожы.*

*Я рада, што "Рэгіянальная газета" разгледзела* ***Алесю Дзяржавец*** *і ўручыла ёй свой прыз. Дзяўчына мае вялікі досвед у канцэртнай дзейнасці, брала ўдзел у перадачах "Спяваем з аркестрам", "Зорная ростань", "Тэлебом". Заўважу, што валодае добрым комплексам поп–спявачкі (голас, знешнасць, уменне трымацца на сцэне, стыльна апранацца).*

На некалькі пытанняў "Рэгіянальнай газеты" адказаў старшыня журы, народны артыст РБ, кампазітар **Эдуард Зарыцкі**:

**– Ваша меркаванне наконт узроўню фестывалю?**

*– Узровень добры. Выканаўцы дастаткова падрыхтаваныя, прафесійнае, лічу, журы, дзе амаль заўсёды панавала суладдзе.*

**– Ці было адчуванне правінцыйнасці?**

*– Калі пад правінцыйнасцю мець на ўвазе, найперш, адсутнасць густу, то ў сталіцы іншы раз сутыкаешся з гэтым у большай меры, чым тут. Так, у некаторых удзельнікаў конкурсу недапрацоўка з адборам песень, напэўна, сказваецца малы сцэнічны вопыт. Густоўны матэрыял, тая ж песня "Жураўлі на Палессе ляцяць", толькі падкрэслівае узровень выканаўцы, уздымае яго. Песні мясцовых кампазітараў, удала падабраныя да голасу, манеры спяваць, нават знешнасці, дапамагаюць, працуюць на выканаўцу. Так, не заўсёды развіты густ. Але з гэтым, як я ўжо адзначыў, можна сутыкнуцца шмат дзе.*

**– Амаль усе выканаўцы, спяваючы песню на беларускай мове, звярталіся да гледачоў па–руску ("веселее!", заклікаючы падтрымаць іх танцамі ці апладысментамі, ці "спасибо"). Гэта гучала недарэчна, рэзала слых. Толькі Марына Пазнанская і Сяргей Бяжанаў сказалі "дзякуй" гледачам.**

*– Усё тая ж праблема адсутнаці густу, у тым ліку і тых, хто рыхтаваў канкурсантаў. Трэба рабіць нейкія прагляды, трэба проста гаварыць людзям пра такія моманты, часта яны іх проста не заўважаюць.*

## Замест заўвагі

Тэма для асобнай гутаркі – падбор рэпертуару. Не ўсе ўдзельнікі выканалі ўмовы конкурсу (песні павінны былі быць разнапланавыя), што, натуральна, паўплывала на ацэнку журы. Гратэскна гучала: «песня з рэпертуару Крысціны Арбакайтэ» (ці яшчэ якой "зоркі" расійскай эстрады). Прычым, часам не важна, з чыйго менавіта рэпертуару песня: у перапынку Хрысціна Хадзько праспявала, акрамя ўсяго, незабыўны "Сумны саксафон". Праз хвілін колькі са сцэны гучала тая самая песня ў выкананні канкурсанткі (не трэба тлумачыць, хто праспяваў лепей).

Не абышлося і без тэхнічных (у прамым сэнсе слова) выдаткаў: не ўсе ўдзельнікі мелі якасныя фанаграмы, на сцэне вымушаныя былі размясціцца гукааператары. У сярэдзіне глядацкай залы, а не "пад калонкамі", павінны быць, напэўна, месцы журы (хаця, як сцвярджалі яго члены, яны прызвычаіліся).

Ад Мядзела і Астраўца, якія атрымліваюць "Рэгіянальную газету", але ўдзелу ў фестывалі яшчэ не бралі, арганізатары чакаюць заяўкі.

***Наталля ХАРЫТОНАВА.***

## Лаўрэаты фестывалю «Адна зямля»

**ГРАН–ПРЫ – Даша Урызчанка** (Маладзечанскі раён)

СТАРЭЙШАЯ ЎЗРОСТАВАЯ ГРУПА

*1–е месца* – **Ірына Гаўрыс** (Маладзечанскі раён)
*2–е месца* – **Сяргей Бяжанаў** (Вілейскі раён)
*3–е месца* – **Мікалай Пратасевіч** (Валожынскі раён) і **Марына Пазнанская** (Ашмянскі раён).

МАЛОДШАЯ ЎЗРОСТАВАЯ ГРУПА

*1–е месца* – **Наталля Салава** (Вілейскі раён)
*2–е месца* – **Анастасія Пятроўская** (Валожынскі раён)
*3–е месца* – **Віталь Капцёнак** (Маладзечанскі раён).

*Прыз глядацкіх сімпатый ад "Рэгіянальнай газеты"* атрымала **Алеся Дзяржавец** (Вілейскі раён), *заахвочвальны прыз ад валожынскай раёнкі "Працоўная слава"* – **Святлана Пушкарова** (Валожынскі раён), *прыз "Творчая надзея"* – **Вікторыя Сямёнава** (Смаргонскі раён).



*Каралева фестывалю на «троне» - каляровым тэлевізары. У «свіце» (злева направа): старшыня журы, народны артыст РБ, кампазітар Эдуард Зарыцкі, дырэктар Маладзечанскага раённага метадычнага цэнтра (МЦ) Святлана Пабута, кампазітар Алена Атрашкевіч, паэтка Таіса Трафімава, загадчыца аддзела культуры Смаргонскага райвыканкома Соф'я Лазар, намеснік дырэктара Гродзенскага абласнога МЦ Таццяна Капітан, загадчык аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкома Аляксандр Рамановіч.*



*Кампазітар з Маладзечна А. Атрашкевіч.*

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА А. АТРАШКЕВІЧ.



*Ірына Гаўрыс перамагла ў старэйшай групе.*



*Загадчык аддзела культуры Валожынскага райвыканкома Сяргей Шаблыка.*



*Конкурснае выступленне Дашы Урызчанкі.*



*«Рэгіянальная газета» аддала свае сімпатыі Алесі Дзяржавец.*



*Паказальная праграма ў выкананні Дзмітрыя Мінько і Хрысціны Хадзько.*

ФОТА НАТАЛЛІ І ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВЫХ.

### ДНІ

**1 ліпеня – 125 год таму** (1.07.1875) **заснаваная Нясвіжская настаўніцкая семінарыя** (існавала да 1921 г.).

**3 ліпеня – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь** (Дзень Рэспублікі). Дзень горада Мінска.

**6 ліпеня – 95 год з дня нараджэння П. Глебкі** (1905–1969), беларускага паэта, акадэміка АН Беларусі.



МАЛАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

## Чэкі «Маёмасць» можна абмяняць да 2002 года

*МАЛАДЗЕЧНА. Чытачы "РГ" цікавяцца, што можна зрабіць з чэкамі "Маёмасць". Мы звярнуліся да эканаміста філіялу №601 ААБ "Беларусбанк" Ірыны Хіла.*

– У аддзяленнях ААБ "Беларусбанк" ёсць спісы рэспубліканскіх прадпрыемстваў, якія мяняюць чэкі "Маёмасць" на свае акцыі, – нагадала яна. – На сённяшні дзень іх 14, з іх 3 – маладзечанскія: Райаграпрамтэхніка, "Аўтатрансбуд" і камбінат хлебапрадуктаў. Звярніце ў вагу, што з заўтрашняга дня з'яўляецца новы, удакладнены спіс прадпрыемстваў.

Як "правільна" ўкласці чэкі? І. Хіла сказала, што ўсё залежыць ад арганізацыі і канкрэтнай парады па тым ці іншым прадпрыемстве яна не дала. Хаця адзначыла нізкую актыўнасць "чэкаўкладальнікаў".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 22 чэрвеня | 29 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 645,00 руб. | 670,00 руб. |
| Марка Герм. | 313,87 руб. | 323,55 руб. |
| Літ | 161,21 руб. | 167,52 руб. |
| Рас. руб. | 22,85 руб. | 23,85 руб. |
| Злоты | 146,86 руб. | 152,26 руб. |
| ЕЎРА | 613,88 руб. | 632,81 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 990 руб. | 970 – 990 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 21.06 | 28.06 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1150 | 1150 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 4280 | 4490 |
| Сасіскі | 1 кг | 1270 | 1460 |
| Рыс | 1 кг | 330 | 340 |
| Грэчка | 1 кг | 550 | 550 |
| Цукар | 1 кг | 350 | 375 |
| Алей | 1 л | 660 | 680 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 370 | 370 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | 270 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 240 | 250 |
| Лімоны | 1 кг | 950 | 900 |
| Апельсіны | 1 кг | 550 | 540 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 260 | 300 |
| Морква | 1 кг | 312 | 330 |
| Капуста | 1 кг | 330 | 250 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 600 | 600 |
| Масла | 1 кг | 1500 | 1600 |
| Тварог | 1 кг | 550 | 500 |
| Малако | 1,5 л | 250 | 250 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 450 | 450 |
| Пятрушка | 1 пучок | 20 | 50 |
| Цыбуля зялёная | 1 пучок | 70 | 50 |
| Кроп | 1 пучок | 30 | 50 |
| Салата | 1 пучок | 40 | 50 |
| Бульба | вядро | 500 | 600 |
| Бульба маладая | 1 кг | — | 400 |
| Морква маладая | 1 пучок | 200 | 150 |
| Клубніцы | 1 кг | 1000 | 1500 |

# Маладзечанскі кірмаш запрашае гасцей з усяго рэгіёна

*МАЛАДЗЕЧНА. Неўзабаве пройдзе "Маладзечанскі кірмаш–2000". Пра яго арганізацыю расказвае першы намеснік старшыні гарвыканкома* ***Яфім Ідэльчык:***

– Маладзечанскі кірмаш быў запланаваны і праводзіцца ў рамках абласных мерапрыемстваў. Падобныя праходзілі раней у Салігорску і Барысаве. Галоўную мэту правядзення свята я асабіста бачу так: задавальненне патрэбаў насельніцтва ў прадуктах харчавання, таварах народнага спажывання, бытавых паслугах.

Арганізатары запрашаюць на кірмаш астраўчанаў, смаргонцаў і ашмянцаў. Не толькі гандлёвыя прадпрыемствы, але і проста жыхароў.

Яфім Ідэльчык запэўніў, што госці сумаваць на кірмашы не будуць:

– Не хацелі б, каб кірмаш ператварыўся ў вялікі магазін: прыйшоў, нешта купіў і пайшоў дадому. Збіраемся арганізаваць дастойную культурную праграму: будуць выступаць самадзейныя калектывы, а ўвечары маладзечанцы і нашы госці пабачаць прафесійных майстроў эстрады.

Культурная праграма да канца яшчэ не дапрацаваная. Але загадчык аддзела культуры гарвыканкома **Надзея Сідарэнка** абяцае на днях пачаць яе рассылку.

На пытанне, ці чакаецца прыбытак для горада, першы намеснік старшыні гарвыканкома адказаў так:

– Спадзяемся, што ў першую чаргу прыбытак атрымаюць прадпрыемствы, якія будуць прадстаўленыя на кірмашы. Калі яны добра падрыхтуюцца, то будуць мець магчымасць атрымаць добры эканамічны вынік. А горад, згадзіцеся, пачуцце абстрактнае.

– Маладзечанцы бачаць, што на месцах будучага кірмаша актыўна вядуцца рамонтныя работы.

– Мы запрасілі да сябе гасцей, а кожны гаспадар стараецца прыбраць свой дом перад гэтым. Найбольшую ўвагу аддаем вуліцам Прытыцкага, Віленскай, Валынца, Талстога, Вялікаму Гасцінцу. Хаця добраўпарадкоўваем горад у планавым парадку: яшчэ ў 1998 годзе была зацверджаная комплексная праграма "Мы любім свой горад", хаця, вядома, правядзенне кірмашу і наклала адбітак на парадак выконваемых работ.

Спачатку свята планавалі зрабіць 1 ліпеня, але потым вырашылася, што яго трэба перанесці. Прычын таму некалькі. Не так даўно (27 мая) прайшоў Барысаўскі кірмаш, акрамя гэтага, паступалі просьбы аб пераносе ад нашых гасцей, бо 3 ліпеня паўсюдна будзе святкавацца Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка–фашысцкіх захопнікаў, таму прадпрыемстваў да нас прыехала б менш.




*Маладзечна рыхтуецца да кірмашу.*

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

На заканчэнне я пацікавіўся, ці можна спадзявацца на ніжэйшы, чым звычайна, кошт тавараў, якія нам будуць прапаноўвацца. Я. Ідэльчык абнадзеіў:

– На кірмашы павінна быць сур'ёзная канкурэнцыя: кожнае прадпрыемства пастараецца прадаць менавіта свой тавар. Для гэтага яны павінны мець больш якасны, цікавей афармлены і, зразумела, таннейшы тавар.

*Гутарыў* **Юрый КАРПІЦКІ.**

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

# – Лепш купляць бульбу ці вырошчваць сваю?

*Ірына Хіла, эканаміст:*

– Бульба ў нас свая, вырошчваем у вёсцы. Крыху яе, на жаль, падмарозіла. Запас бульбы ёсць і цяпер, на рынку не купляем. Лічу, што лепш вырошчваць сваю бульбу, яна – свая.

*Мечыслаў Зайкоўскі, інжынер:*

– На дачы ў кааператыве "Магістраль" у нас памерзла не толькі бульба, але і агуркі з памідорамі. Хто ж ведаў, што летам маразы настануць?! Як жыць зімой, не ведаю. Свая бульба лепш, бо яна без хіміі, а на рынку не накупляешся – дарагая.

*Наталля Мікульская, маляр:*

– З леташняга ўраджаю засталіся мяхі тры, на месяц павінна хапіць. Нядаўнія маразы пашкодзілі цэлы кавалак бульбы на маім участку ў вёсцы Гранічы, а купляць чыюсьці не хацелася б.

*Марыя Драгун, пенсіянерка:*

– Бульба ў мяне не памерзла, затое пашкоджаная фасоля. У нашай вёсцы Семернікі, што пад Гарадком, мароз ішоў палосамі, у некаторых людзей вымерзла ўся бульба. Шкада, бо свая бульба на натуральным расце.

ФОТААПЫТАННЕ ПАДРЫХТАВАЎ ЮРЫЙ КАРПІЦКІ.

СПАЖЫВЕЦ

## Калі аддаяце тавар у рамонт, агаворвайце тэрмін выканання заказу

Мужчына купіў радыёпрыёмнік. Не прайшло і 3 месяцы, як прыбор зламаўся. Спажывец па гарантыі аддаў прыёмнік у рамонт, пры гэтым склаў заяву. Больш, як праз два месяцы прыёмнік так і не вярнулі.

Арганізацыя, якая ўзялася за рамонт радыёпрыёмніка, зрабіла 3 парушэнні:

1. Разам з пашпартам у спажыўца забралі таварны чэк.

Ведайце: таварны чэк павінен быць у вас, а прадпрыемства можа забраць толькі яго копію.

2. Не быў агавораны тэрмін заканчэння работ, чым парушаны артыкул 16 "правілаў бытавога абслугоўвання". Тэрмін выканання работ устанаўліваецца непасрэдна пры прыёме заказу па дамоўленасці паміж прадпрыемствам і заказчыкам. Па жаданні заказчыка заказ можа быць выкананы ў тэрміновым парадку.

3. Радыёпрыёмнік меў гарантыю, а прадпрыемства не выканала работы ў 14–дзённы тэрмін. Парушаны артыкул 10 (частка 7) закона "Аб абароне правоў спажыўцоў": тэхнічна складаныя тавары, у працэсе эксплуатацыі якіх выяўлены схаваныя дробныя недахопы, належаць абмену, калі прадавец, вытворца (прадпрыемства, якое ажыццяўляе іх функцыі) у 14–дзённы тэрмін не зробяць рамонт за кошт сваіх сродкаў.

Незалішнім будзе ведаць і частку 11 згаданага артыкула: у выпадку затрымкі выканання патрабавання аб прадастаўленні падчас рамонту аналагічнага тавару, а таксама ўхілення недахопаў у тавары ці яго замены (што здарылася ў нашым выпадку), прадавец павінен заплаціць спажыўцу аднапрацэнтавую неўстойку за кожны дзень звыш раней устаноўленых тэрмінаў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

## У рэгіёне 561 вучань скончыў школу з медалём

Прапануем звесткі па колькасці медалістаў у рэгіёне. Як відаць, маладзечанцы перастрахаваліся ў планаванні медалёў, а прадстаўнікі гэтага раёна больш за ўсіх страцілі, у параўнанні з запланаванымі. Лічбы ў дужках якраз і паказваюць колькасць прэтэндэнтаў на медалі перад экзаменамі (у Ашмянскім і Мядзельскім раёне пра свае планы аддзелы адукацыі не сказалі).

| | Залатыя медалі | Срэбраныя медалі |
|---|---|---|
| Маладзечна | 43 (40) | 38 (45) |
| Маладзечанскі раён | 14 (35) | 19 (25) |
| Астравецкі раён | 39 (42) | 29 (28) |
| Ашмянскі раён | 28 (-) | 16 (-) |
| Валожынскі раён | 39 (41) | 36 (36) |
| Вілейскі раён | 38 (49) | 45 (50) |
| Мядзельскі раён | 34 (-) | 36 (-) |
| Смаргонскі раён | 51 (53) | 56 (57) |
| **Усяго па рэгіёне:** | **286** | **275** |

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

ВЫПУСКНЫ

## Дарога ў дарослае жыццё пачынаецца з выпускнога вечара

Пасля заканчэння школьных экзаменаў настаўнікі былі заклапочаныя выпісваннем атэстатаў, бацькоў турбавала, як належным чынам адсвяткаваць заканчэнне школы.

Адны ўборы на выпускны добра "даюць па кішэні", не кажучы пра здымкі на памяць, кветкі для настаўнікаў і г. д. Каб выйсці з гэтага становішча, у многіх школах рэгіёна прапанавалі дзяўчатам і хлопцам прыходзіць на выпускны ў школьнай форме. Адзначу, што гэтая задума атрымлівае ўсё больш прыхільнікаў – з прычыны ўсё тых жа бацькоўскіх фінансавых цяжкасцяў.

Другое пытанне тычыцца святкавання непасрэдна. Лічыцца, што сёлетні год пазначаны адсутнасцю алкагольных вырабаў на сталах. Многія дырэктары школ пад подпіс атрымалі адпаведныя загады аддзела адукацыі, згодна з якімі, выкарыстанне усялякіх алкагольных напіткаў забараняецца, адказнасць за спажыванне ўскладаецца на бацькоў. Натуральна, што арганізоўвалася і дзяжурства работнікаў міліцыі на выпускных вечарах. Пра цукеркі і да таго падобнае ў загадзе нічога не было сказана.

*Алесь РАЛАВЕЦ.*

## Свята для выпускнікоў

МЯДЗЕЛ. Даўно столькі людзей не збіралася ў цэнтры горада, як у мінулую суботу. Упершыню ў райцэнтры правялі агульнагарадское свята "Выпускнік".

153 выпускнікі трох мядзельскіх школ пачулі шмат пажаданняў, кожнаму з іх уручылі ў падарунак своеасаблівую энцыклапедыю Мядзельшчыны – кнігу "Памяць".

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ДАТЫ

## Свірскаму ПТВ–207 спаўняецца 60 год

***МЯДЗЕЛ. Вёска Камарова ўражвае – без намёку прынамсі на статус гарпасёлка, але вельмі ўтульная. Менавіта тут размяшчаецца ПТВ–207 – старэйшая навучальная ўстанова раёна, якой сёлета спаўняецца 60 год. Дырэктар вучылішча Эдуард Вайцяховіч:***

– На сённяшні дзень у вучылішчы рыхтуюць трактарыстаў, механізатараў, электраманцёраў, леснікоў, а дзяўчаты могуць набыць прафесію швачкі. Спецыяльнасці, якія можна атрымаць у нашым ПТВ, лічу, даволі цікавыя. Фізічная праца заўсёды патрабавала маладых энергічных рук, таму значная колькасць нашых выпускнікоў працаўладкоўваецца. Хаця бывае і так, што чалавек разумее, што гэтая справа не для яго, ужо калі скончыць вучылішча. Што ж, кожнаму сваё.

**– З 1 верасня ПТВ стане прафесійным ліцэем. Што зменіцца, акрамя назвы?**

– Па–першае, зменіцца сам статус навучальнай установы. Згадзіцеся, ліцэй – гэта больш прэстыжна. Па–другое, узровень ведаў і патрабаванні да навучэнцаў стануць больш высокія. Па–трэцяе, плануецца раздзяліць практычную і тэарэтычную часткі навучання. І мы будзем працягваць набіраць ліцэйскія групы па падрыхтоўцы майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці. За тры гады навучэнцы атрымаюць не толькі сярэднюю адукацыю з паглыбленым вывучэннем фізікі і матэматыкі і набудуць спецыяльнасці трактарыста, вадзіцеля і слесара, але і пасля заканчэння вучылішча змогуць прадоўжыць вучобу ў БАТУ або паступіць у тэхнікум са скарочаным тэрмінам навучання.

**– Адчуваецца, што ў вучылішчы клапоцяцца пра знешні выгляд установы, пра чысціню і дагледжанасць тэрыторыі.**

– Так, нас радуе, што работнікі вучылішча забяспечаныя прыстойным жыллём, для навучэнцаў ПТВ пабудавана новая спартзала, абсталявана сучасная сталовая. Ёсць актавая зала, дзе праводзяцца і кінасеансы. Нават райцэнтр не можа пахваліцца такім кафэ–барам "Вітраж", што адкрыты ў нас, а дыскаклубам, дзе на належным узроўні і само памяшканне, і музыка, задаволеная ўся моладзь. Акрамя таго, абсталёўваецца новая хлебапякарня. У будучым плануецца адрэстаўраваць панскую сядзібу. А засмучае мяне толькі адно: недахоп сродкаў.

**– І ўсё ж работнікі ПТВ своечасова атрымліваюць зарплату, а навучэнцы забяспечаны бясплатным трохразовым харчаваннем. Што ў далейшых планах?**

– Я маю надзею на інвестыцыі заходніх краін, у прыватнасці, Германіі, з якой наша вучылішча наладжвае трывалыя сяброўскія адносіны. Нам, беларусам, трэба многаму навучыцца ў немцаў: практыцызму, мэтанакіраванасці, уменню ствараць гармонію чалавека і прыроды.

*Галіна МАЛЬКЕВІЧ, выпускніца Куцькаўскай СШ.*

## Работы і грошай няма. Але ідэалогія – святое

З мэтай павышэння эфектыўнасці ідэйна–палітычнай работы ў калектывах многіх прамысловых прадпрыемстваў рэгіёна (кштальту маладзечанскіх «Спадарожніка» і станкабудаўнічага завода), мясцовыя выканкомы прынялі рашэнні абавязаць іх кіраўнікоў ствараць цэласную інфармацыйную структуру, якая будзе ўключаць выбраных намеснікаў па інфармацыйна–растлумачальнай рабоце, адказных за арганізацыю ідэалагічнай работы ў цэхах, на ўчастках і ў брыгадах, кіраўнікоў грамадскіх аб'яднанняў сваіх прадпрыемстваў, бібліятэчных работнікаў і спецыялістаў па рабоце з моладдзю. Робіцца гэта для прапаганды і растлумачэння дзяржаўнай палітыкі, а таксама... вытворчых задач, што стаяць перад калектывамі,

Адначасова адзначаецца неабходнасць сумеснага з аддзеламі арганізацыйна–кадравай работы і аддзелам інфармацыі выканкомаў штогадовага аналізу стану работы з кадрамі і стану маральна–псіхалагічнага клімату ў калектывах.

Не забылі і моладзь: для правядзення ўсяго комплексу ідэалагічных мерапрыемстваў з моладдзю, якая, прыкладам, жыве ў інтэрнатах згаданых заводаў «Спадарожнік» і станкабудаўнічага, належыць ствараць саветы інтэрнатаў. Прадугледжаны шэраг іншых крокаў у гэтым напрамку.

Не бяда, што «Спадарожнік» трывала працуе 2–3 на тыдзень, што заробкі на многіх прадпрыемствах складаюць па 10–15 тысяч. Галоўнае, правільна патлумачыць рабочым сэнс іхняга жыцця.

*Сямён РАБІНОВІЧ.*



ФОТА REX / PROMEDIA

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## «Дзень добры!»

На калгасны сход сабралася ўся вёска. Доўга рассаджваліся на лавах, расказвалі навіны, галоўнай з якіх была наступная: сёння павінны даваць падарункі перадавікам вытворчасці. Час быў пасляваенны, таму кожны калгаснік чакаў гэтае падзеі: не атрымаць, дык пазайздросціць.

Сход пачаў старшыня. Гаварыць ён не ўмеў, але тут быў вымушаны.

– Цяпер, таварышы, будзе прыемны момант. Хачу адзначыць перадавікоў. Першую – Настассю. Ёй за добрую працу – адрэз на сукенку. Павіншуем яе, таварышы!

Народ Настассю ведаў. Хто ж не ведае палюбоўніцу старшыні? Жанчына добрая, працавітая. А што патрапіла з мужыком, дык што ж... Пачалі гаманіць, пачуліся апладысменты. Супраць улады перці няма ахвоты.

– Адрэз на паліто праўленне дае з найлепшымі пажаданнямі за сацыялістычную працу Надзеі. Так трымаць, Надзея! Павіншуем яе таксама!

Ведалі і Надзею. Была братавою старшыні, але таксама нічога баба і на палетку, няхай сабе. Рэдкія воплескі перарываліся развагамі: а як жа Золька? Няўжо і на гэты раз яе абыдуць?

Старшыня ж тым часам віншаваў мужчын: аднарукага агранома Янку і механізатара Рыгора. Ну, гэтых трэба, бо на іх працы трымалася гаспадарка. Кожнаму далі па гадзінніку.

– Вось і ўсё, таварышы. Дзякуй за ўвагу.

Але тут не стрымалася языкастая Аўдоцця:

– Аляксей Цімафеевіч! А чаму ж не віншуеш Зольку? Ва ўсіх жа справах першая! Хіба не заслужыла?!

Старшыня пачырванеў.

– Вядома ж, я ў канцы хацеў адзначыць і яе. Праўленне калгаса параілася і рашыла ёй аб'явіць...

Старшыня не змог успомніць слова "благодарность" (гаварыў па–руску), а замест яго, як былы вайсковец, рашуча і гучна сказаў: "Дзень добры!"

З таго часу ў нашай вёсцы пра любую тлумную працу, за якую не атрымаеш заробатак, кажуць: "Працаваў за дзень добры".

*Алесь РАЛАВЕЦ.*

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

## Кніга жыцця Міколы Ермаловіча

Яшчэ ў нядаўнія часы аддрукаваная на машынцы кніга Міколы Ермаловіча пра старажытную Беларусь перадавалася з рук у рукі, як самая вялікая "крамола". "Крамольнасць" заключалася ў тым, што аўтар аргументавана, з неабвержнымі фактамі ў руках разгрэб векавыя напластаванні вучонай хлусні і паказаў на ўсёй велічы сапраўдную гісторыю Беларусі.

Нядаўна галоўная кніга Міколы Ермаловіча "Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае" выйшла ў сваім поўным, завершаным выглядзе ў выдавецтве "Беллітфонд". Аўтар працаваў над ёй да самых апошніх дзён свайго жыцця, ён паспеў унесці ў вёрстку ўсе неабходныя дапаўненні і ўдакладненні. На вялікі жаль, кнігі ўсяго свайго жыцця Мікола Ермаловіч ужо не патрымаў у руках: перад выхадам яе ў свет амаль поўнасцю асляпілага ўжо гісторыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі збіла на вуліцы таксі, і ён памер у бальніцы.

У кнізе Міколы Ермаловіча раскрыта 500–гадовая гісторыя беларускай сярэднявяковай дзяржавы – Вялікага княства Літоўскага, ад часу яе ўтварэння ў XII стагоддзі да ліквідацыі ў канцы XVIII стагоддзя, калі была падзеленая паміж манархічнымі рэжымамі Аўстрыі, Прусіі і Расіі дзяржава Рэч Паспалітая, у якую ўваходзіла на федэратыўных пачатках і Вялікае княства Літоўскае.

Кніга асабліва карысная будзе настаўнікам, студэнтам і вучням старэйшых класаў нашых школ у вывучэнні гісторыі Беларусі.

*Кастусь АЛЯКСАНДРАЎ.*

ЛЁСЫ

# Геаграфія земляка

***МАЛАДЗЕЧНА. Не кожны можа сказаць, што бачыў "будзёнаўку", але ёсць у горадзе чалавек, які яе нават насіў. Гэта Павел Рыжкоўскі, ветэран другой сусветнай.***


Павел Рыжкоўскі.
ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА.

Для яго вайна пачалася 22 чэрвеня 1941 года ў Сібіры. Там праходзіў тэрміновую службу ў бамбардзіровачнай авіяцыі далёкага дзеяння. Пасля абвяшчэння вайны салдатаў на цягніках і самалётах пачалі перакідваць у маскоўскім напрамку. Першым ваенным пунктам быў Калінін. Тут на аэрадроме загінула амаль уся іх брыгада (каля 80 машын). Немцы не далі нават падняцца з аэрадрома.

Тых, хто застаўся жывы, перасадзілі на самалёты ТБ–3 і яны ўдзельнічалі ў бітве за Маскву. Далей быў Сталінградскі фронт. Пасля – Курская дуга. Усюды бамбардзіроўшчыкі выконвалі задачы забеспячэння войскаў палівам і агнявой падтрымкай. Напярэдадні былі падрыхтоўка і ўдзел у высадцы дэсанту для вызвалення Харкава.

Ваяваў Павел Рыжкоўскі і пад Ленінградам, дзе бамбардзіроўшчыкі крышылі магутную нямецкую абарону. Іх самалёты кожную ноч бамбілі Хельсінкі, Гатчыну. За апошнюю полк атрымаў назву Гатчынскага. На той момант ён быў стралком–радзістам. Вельмі шмат лётчыкаў гінула, таму што канструкцыйныя асаблівасці самалётаў не прадугледжвалі абарону ад куль і снарадаў. Але Паўлу шанцавала.

Шлях вайны пайшоў праз Беларусь і Украіну. Удзельнічалі бамбардзіроўшчыкі 7–га гвардзейскага палка авіяцыі далёкага дзеяння ў вызваленні Магілёва і Заходняй Украіны. Дэсантавалі з Буска чэшскую брыгаду генерала Свободы на аэрадром "Тры дубы" у Славеніі.

Далей – Польшча. Полк кватараваў у Мяльцы – бамбілі Кракаў і Чанстахову, падвозілі гаручае для танкаў, удзельнічалі ў бамбардзіроўках арміі Уласава.

У Польшчы Рыжкоўскі быў у роце сувязі, таму знаходзіўся больш на зямлі. Пасля – Германія і Чэхія. Да Берліна іх полк не дайшоў кіламетраў 200. Тут і сустрэлі Перамогу. Да гэтага часу стаіць перад вачыма той дзень, бо гэта сапраўднае свята для тых, хто дачакаўся яго. Шмат маладых сяброў загінула. Але засталіся і жывыя – Пётр Шышкевіч са Смаргоні і Іван Петрачэнка з Вілейкі. Праўда, даўно не бачыліся...

Вайна ішла далей, і ў жніўні 1945 года іх полк пераводзяць на Далёкі Усход. 2 тыдні сядзелі на аэрадроме ў Тамсак-Булаху, што ў Манголіі. Камандзіры страшылі, што давядзецца нават спаць у самалётах. Але манголы сустракалі добра, ды і вакол адзін суцэльны аэрадром – гладкі стэп. Ды чароды авечак і коней. Частавалі мясам і кумысам, але хлеба не было. Гасцінныя манголы лепшаму госцю нават прапаноўвалі сваіх жонак, але ніхто не адважваўся: надта тыя былі мурзатыя.

З заданнямі выконвалі забеспячэнне вадой і правіянтам часцей арміі, што пераходзілі праз Вялікі Хінган. Да вайны за пералёт праз гэтыя горы давалі Героя Савецкага Саюза, а ў вайну пра ўзнагароды ніхто і не згадваў. Пехацінцам унізе было значна цяжэй.

Пабылі ў Харбіне, Пхеньяне. Вельмі гасцінныя былі карэйцы. Сустракалі і суайчыннікаў – былых белагвардзейцаў. Яны шчыра запрашалі ў госці, хаця б паразмаўляць. Хоць і забаранялася, многія хадзілі.

Яшчэ помніцца, як дзеля смеху вазілі на сабе рыкшаў, бо ездзіць на іх нашым таксама забаранялася: эксплуатацыя чалавека чалавекам. Цікавыя былі дамы карэйцаў і японцаў. Ужо ў той час у іх было электрычнае падаграванне падлогі. На ўсё глядзелі нашыя салдаты, дзівіліся.

Тут, у Карэі, і сустрэў Павел Рыжкоўскі заканчэнне вайны з Японіяй 9 верасня 1945 года. Дадому дабіраўся два гады. Дэмабілізаваўся з Далёкага Усходу. Да гэтага часу сніць ён аэрадромы Тахтамыгды, Магдагоша, Нерчынск, Шылка...

Пасля скончыў гістфак, працаваў настаўнікам. Калі ж даводзілася замяняць геаграфа, дзеці амаль што не атрымлівалі звестак з падручніка, бо разам з гісторыяй сусветнай вайны геаграфія значнай часткі Еўропы і Азіі прайшла перад вачыма. Засталіся толькі ўзнагароды і Памяць.

*Алесь РАЛАВЕЦ.*

